# наша свабода

№34 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

23 ЧЭРВЕНЯ 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




стар.7

ЧЫНОЎНЫЯ КАТАПУЛЬТЫ

# Посланцы Европы Минску надоели

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

**Никаких ощутимых сдвигов в положительную сторону нынешний визит европейской парламентской Тройки не принес. Официальный Минск проявил бескомпромиссность по ряду принципиальных вопросов в отношениях с оппозицией.**



Фота Ул.ШЛАПАКА

● Председатель КНГ ОБСЕ **Ханс-Георг Вик**, председатель «Рабочей группы по Беларуси» **Адриан Северин**, президент делегации Европарламента по отношениям с Беларусью **Ян Маринус Вирсма** и посол Франции в Беларуси **Бернар Фасье**

После встречи с руководителем Рабочей группы Парламентской ассамблеи ОБСЕ по Беларуси Адрианом Северином и другими членами делегации европейских структур президентский помощник Сергей Посохов признал, что принципиальные разногласия сохранились. Они касаются нежелания властей вести прямые переговоры с оппозицией, семь партий которой объединились в Консультативный совет. По словам С. Посохова, обсуждение каких-либо вопросов приемлемо только в формате идущего по инициативе А. Лукашенко диалога общественно-политических сил Беларуси. В отличие от переговорной формулы, так называемый диалог не предусматривает посреднической роли ОБСЕ. Миссии посла Х.-Г. Вика отводится роль наблюдателя.

Свое отношение к нынешнему приезду делегации трех европейских структур ( Парламентских ассамблей ОБСЕ, Совета Европы, а также Европарламента ) руководство Беларуси уже выразило при подготовке программы встреч. Состав представителей власти и время встреч определялись буквально накануне. А встреча с главой АП РБ Михаилом Мясниковичем и вовсе недипломатично была перенесена без объяснения причин. Некоторыми наблюдателями случившееся было расценено, как еще один признак скорого ухода М. Мясниковича. Что касается самого А. Лукашенко, то, похоже, ему надоели беседы с А. Северином и Х.-Г. Виком о принципах демократии и уважении к политическому меньшинству — оппозиции. Как неоднократно подчеркивалось, власть оппозицию взращивать не намерена. Поэтому, надо полагать, нужды в личных контактах с европейской Тройкой А.Лукашенко не видит. Как считают в оппозиции, из-за «спины» России пока не видит.

Зато весьма «плодотворно» прошел прием европейцев у первого заместителя главы АП РБ Владимира Заметалина. Гостям был продемонстрирован жесткий подход по интересующим их проблемам Беларуси. Согласно ему, например, никакого конституционного кризиса в Беларуси нет. Правда, и г-н А.Северин с коллегами, по неофициальной информации, проявили в беседе с одним из идеологов режима, коим считается В.Заметалин, куда большую, нежели на пресс-конференциях, прямоту в отстаивании базовых принципов мирового сообщества. Так что можно предположить, что после этого знакомства, да и беседы с С.Посоховым и прикрепленных к нему лиц, у посланцев Европы укрепилось ощущение того, что их слышать не хотят. ▶

*Окончание на стр.2*

## Апазіцыя сустрэнецца з Олбрайт

Аляксей ЛОЎСКІ

**Беларуская апазіцыя запрошаная да ўдзелу ў працы буйнейшай міжнароднай канферэнцыі «Міжнародны Форум за Дэмакратыю», які пройдзе з 25 па 27 чэрвеня ў Варшаве.**



У форуме чакаецца ўдзел такіх уплывовых у сусветнай палітыцы асобаў, як дзяржсакратар ЗША Маллен Олбрайт, генеральны сакратар ААН Кофі Анан, старшыня Інстытута Адкрытае Грамадства Джордж Сорас, міністр замежных справаў Польшчы Браніслаў Герэмек, іншых вядомых дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў.

Беларусь на гэтай канферэнцыі будуць прадстаўляць старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, старшыня БНФ Вінцук Вячорка, каардынатар Хартыі'97 Зміцер Бандарэнка і іншыя палітыкі.

Канферэнцыя ладзіцца сумеснымі высілкамі ўрадаў Польшчы, Чэхіі, Чылі, Індыі, ЗША, Паўднёвай Карэі і Малі дзеля міжнароднага супрацоўніцтва на шляху развіцця дэмакратыі. На мерапрыемстве плануецца абмеркаваць такія пытанні, як «дэмакратыя і карупцыя», «падтрымка адкрытага грамадства» і іншыя.

Напярэдадні «Міжнароднага Форуму за Дэмакратыю» амерыканскія сенатары Крыстофер Сміт і Рычард Дурбін звярнуліся да Мадлен Олбрайт з заклікам сустрэцца ў Варшаве з беларускімі палітыкамі і выказаць ім падтрымку на шляху пераадолення перажыткаў камунізму і таталітарызму. ■

## Дэмакраты Беларусі і Расіі аб'ядноўваюцца

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

19 чэрвеня ў рамках дамовы аб супрацоўніцтве, заключанай на пачатку месяца паміж Аб'яднанай грамадзянскай партыяй Беларусі і Саюзам правых сілаў Расіі, у Маскве прайшоў першы «круглы стол» гэтых партыяў. Да ўдзелу ў паседжанні былі запрошаны вядомыя расійскія палітыкі Барыс Нямцоў, Ірына Хакамада, Сяргей Іваненка (намеснік старшыні фракцыі «Яблык» у Дзярждуме). У склад дэлегацыі АГП уваходзілі Анатоль Лябедзька, Аляксандр Дабравольскі, Павел Казлоўскі і іншыя. Адным з вынікаў «круглага стала» стала ініцыятыва пісьмовага звароту да А.Лукашэнкі з патрабаваннем дапусціць дэмакратычную апазіцыю да дзяржаўных СМІ, забяспечыць лібералізацыю выбарчага заканадаўства і празрыстасць падліку галасоў. Пад зваротам свае подпісы ўжо паставілі такія вядомыя расійскія палітыкі, як Рыгор Яўлінскі, Яўген Прымакоў, Барыс Нямцоў, іншыя кіраўнікі і дэпутаты фракцыі СПС у Дзярждуме. Напрыканцы верасня ў Мінску адбудзецца другі раунд «круглага стала». Сваю прысутнасць на ім паабяцалі Барыс Нямцоў і Ірына Хакамада.

Па вяртанні ў Мінск спадар А.Лябедзька, у прыватнасці, падкрэсліў, што АГП прэтэндуе на ролю пасярэдніка паміж дэмакратычнымі сіламі Беларусі і Расіі, бо, па-першае, гэтая ніша зараз ці не занятая зусім, ці яе спрабуе кантраляваць Лукашэнка. АГП, па словах Лябедзькі, сярод усіх беларускіх апазіцыйных партыяў мае на ўсходзе найбольш цесныя сувязі, і гэта дапаможа ў хуткім часе стварыць у кіруючых уладных органах Расіі прабеларускае дэмакратычнае лобі, што наблізіць вырашэнне многіх пытанняў.

Нагадаем, у траўні дэлегацыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі ў складзе спадароў Паўла Данэйкі і Станіслава Багданкевіча ўжо прымала ўдзел у з'ездзе Саюза правых сілаў Расіі, і менавіта тады былі заключаныя першыя дамовы аб супрацоўніцтве з расійскімі дэмакратамі. ■

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Праводзячы палітыку выхаду на адзіны курс долара да чацвёртага квартала гэтага года, Нацыянальны банк Беларусі дастаткова хутка павялічвае афіцыйны курс і стрымлівае рост рынкавых каціровак амерыканскай валюты.** Аднак, як заявіў прэс-сакратар Нацбанка Міхаіл Журавовіч, у галоўнай фінансавай установы могуць узнікнуць праблемы на шляху ўсталявання адзінага курса долара. Па яговых словах, Нацбанку можа не хапіць золатавалютных рэзерваў для падтрымання стабільнасці рынкавых каціровак. Дарэчы, на сённяшні дзень афіцыйны курс долара ЗША да беларускага рубля, устаноўлены Нацыянальным банкам Беларусі, складае 650 рублёў. Такім чынам, з пачатку года афіцыйны курс вырас роўна ў два разы.

■ **На Мінскім аўтамабільным заводзе ўчора быў сабраны тысячны аўтобус.** Восем гадоў таму на МАЗе была створаная аўтобусная вытворчасць, дзе пачалі збіраць першыя машыны з камплектаў нямецкай фірмы *Neoplan*. Толькі праз два гады з'явіліся першыя пяць аўтобусаў. А летась гэты паказчык склаў ужо 380 машынаў. Сёлета чакаецца падвышэнне вытворчасці да 500 аўтобусаў у год. Генеральны дырэктар ВА "БелаўтаМАЗ" Валянцін Гурыновіч мяркуе, што ў перспектыве памер вытворчасці можна падвысіць і да 2.000 аўтобусаў у год. Па Беларусі ездзіць крыху болей за 500 аўтобусаў МАЗ, усе астатнія ідуць на экспарт.

■ **Парэшткі 527 салдатаў і афіцэраў вермахта, якія загінулі на тэрыторыі Беларусі ў гады Другой сусветнай вайны, да канца гэтага тыдня будуць перазахаваныя на каталіцкіх могілках горада Глыбокае (Віцебская вобласць).** Увосень 1999 года на футбольным полі ў г.Глыбокае былі знойдзеныя пахаванні нямецкіх салдатаў часоў Другой сусветнай вайны. Па ўзгадненні з амбасадай ФРГ да эксгумацыі пахаванняў, якую ў траўні 2000 года правялі воіны спецпадраздзялення мінабароны Беларусі, былі прыцягнутыя спецыялісты Нямецкага саюза па доглядзе за воінскімі пахаваннямі. Па дакументах, якія маюцца ў германскага боку, устаноўленыя імёны загінуўшых.Амбасада Германіі выказала гатоўнасць аплаціць расходы па перазахаванні суайчыннікаў, а таксама аказаць матэрыяльную дапамогу ў рэканструкцыі стадыёна.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Курс наяўнага долара на «чорным рынку» **980**

# Прысуд не прызнаюць

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Амбасада ЗША заклікае беларускія ўлады адмяніць «палітычна абумоўлены» прысуд дэпутату ВС-13 Валерыю Шчукіну і старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада).**




Валерый Шчукін і Мікалай Статкевіч падчас абвяшчэння прыгавору

Фота Ул.ШЛАПАКА

Як мы ўжо паведамлялі, Мінскі гарадскі суд прыгаварыў Валерыя Шчукіна да аднаго года пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на адзін год. На тэрмін у два разы большы асуджаны Мікола Статкевіч. Такое жорсткае пакаранне палітыкам было вынесенае за арганізацыю і актыўны ўдзел у леташнім «Маршы Свабоды» 17 кастрычніка і ў акцыі «Дзень Незалежнасці» 27 ліпеня 1999 года.

На наступны пасля прысуду дзень В.Шчукін распаўсюдзіў заяву-зварот да Мінскага гарадскога суда, дзе называе прысуд «палітычнай расправай». Таксама ён заяўляе: «...я з'яўляюся свабодным чалавекам і не намераны пытаць у каго бы то не было дазволу на свае рухі, а ўжо тым больш адзначацца ў жандармерыі, і таму я **не прымаю прызначаную судом адтэрміноўку і пасля ўступлення прысуду ў законную сілу гатовы з'явіцца ва ўказанае вамі месца для адбывання прызначанага мне гадавога тэрміну пазбаўлення волі**».

У дзень абвяшчэння прысуду Валерый Шчукін настаяў на тым, каб усе жадаючыя прысутнічаць на працэсе – а гэта больш за сто чалавек – увайшлі ў судовую залу. Спачатку міліцыянты ўпарціліся, але ж прысутнасць у судовай зале прадстаўнікоў «еўратройкі», кіраўніка КНГ АБСЕ па Беларусі Ханса-Георга Віка і добрага тузіна прадстаўнікоў амбасадаў Еўрасаюза астудзіла жаданне ўчыняць скандал. Усе жадаючыя трапілі ў суд, і, як высветлілася, месца ўсім хапіла.

Суддзя Ігар Крот прызнаў абодвух палітыкаў вінаватымі па артыкуле 186³ КК РБ «Арганізацыя, ці актыўны ўдзел у дзеяннях, груба парушаючых грамадскі парадак». Тым не менш, суд зняў з В.Шчукіна абвінавачванне ў арганізацыі «Маршу Свабоды» 17 кастрычніка 1999 года, пакінуўшы толькі «актыўны ўдзел» у ім. Ігар Крот таксама адхіліў іскі міліцыянтаў, якія пацярпелі ад камянёў, аб выплаце ім кампенсацыі — па прычыне, што траўмы міліцыянтам наносілі не непасрэдна падсудныя. Суд не задаволіў іскі пракурора горада да палітыкаў у інтарэсах «Мінскзеленбуда», ГУУС г.Мінска. Аднак гэтыя арганізацыі маюць права падаць на В.Шчукіна і М.Статкевіча грамадзянскія іскі аб кампенсацыі ўрону. «Мінскэнергатранс» атрымае толькі частковую кампенсацыю за прастой грамадскага транспарту падчас масавых акцыяў. Гэтаму прадпрыемству М.Статкевіч з В.Шчукіным салідарна мусяць выплаціць па 83.150 рублёў кожны.

Абодва палітыкі збіраюцца з дапамогай адвакатаў абскардзіць прысуд у Вярхоўным судзе Беларусі. Мікола Статкевіч у пасляcудовым каментары, як і Валерый Шчукін, назваў прысуд «палітычным» і абгрунтаваў ягонае прыняцце барацьбой супраць магчымых праціўнікаў на прэзідэнцкіх выбарах і выбарах у парламент.

Па просьбе НАШАЙ СВАБОДЫ пракаментавала прысуд і адвакат М.Статкевіча Таццяна Станкевіч: «Няма словаў... Прысуд абсалютна неабгрунтаваны і нелагічны. І больш тут казаць няма чаго. У іх не было ніводнага разумнага доваду ў бок абвінавачвання! Няма словаў!»

Зразумела, што справа Статкевіча-Шчукіна знайшла водгук і ў калегаў асуджаных па палітычнай дзейнасці. У прыватнасці, старшыня БНФ Вінцук Вячорка заявіў: «Бясспрэчна, рэжым апынуўся паміж двух агнёў. З аднаго боку, ёсць страх перад хваляй палітычнай актыўнасці, якая пасля вясны адновіцца ўвосень. І тут трэба застрашваць, а каб застрашваць, трэба саджаць. З іншага боку, акцыі пратэсту, у тым ліку і тыя, за якія сёння асудзілі Статкевіча са Шчукіным, выклікалі велізарную міжнародную ўвагу да Беларусі. Яе раней не было, але цяпер, калі альтэрнатыва рэжыму стала выяўнай, стала відавочнай і міжнародная ўвага. Усё гэта прывяло да таго, што рэжым крыху адступіў, палітыкаў не пасадзілі, але «падвесілі» аднаго на год, а другога — на два, паспрабаваўшы выключыць іх такім чынам з актыўнага палітычнага жыцця». ■

ЭНЕРГЕТЫКА

# «Беларусь гатовая прыняць расійскі рубель»

Міхась КАРПОВІЧ

**Пра гэта заявіў Аляксандр Лукашэнка падчас сустрэчы з прэзідэнтам Расіі Уладзімірам Пуціным у сераду. Сустрэча прайшла пасля заканчэння саміта кіраўнікоў дзяржаваў СНД у Маскве 21 чэрвеня.**

Беларусь "гатовая прыняць расійскі рубель" у якасці адзінага разліковага плацёжнага сродку на тэрыторыі Саюзнай дзяржавы, заявіў А.Лукашэнка.

Такім чынам ён выказаў жаданне пазбавіцца аднаго з галоўных здабыткаў беларускай незалежнасці – уласнай валюты – дзеля міфічнага аб'яднання дзвюх краінаў. Па прызнанні самога А.Лукашэнкі, падчас сустрэчы з У.Пуціным шмат увагі яны ўдзялялі праблемам фарміравання саюзнай дзяржавы.

Тым часам інтэграцыйныя парывы паміж кіраўніцтвам дзвюх краінаў працягваюць набіраць сілу. Ужо абвешчана, што 27-28 чэрвеня ў Маскве адбудзецца паседжанне Вышэйшага дзяржаўнага савета Саюза Беларусі і Расіі. На ім, хутчэй за ўсё, бакі зоймуцца рэвізіяй усіх пагадненняў, падпісаных у рамках дагавора аб стварэнні гэтага Саюза.

Сам А.Лукашэнка яшчэ не паспеў вярнуцца з Масквы, як ужо прызначыў рандэву з дзяржсакратаром Саюза Паўлам Барадзіным. Гэтая сустрэча праходзіла ўчора а другой палове дня ў прэзідэнцкай рэзідэнцыі. На момант падпісання нумару ў друк яе вынікі нам былі яшчэ невядомыя. Аднак вядома, што А.Лукашэнка і П.Барадзін збіраюцца разам вызначыць парадак дня гэтага паседжання. «Я прадстаўлю справаздачу, дзе падвергну рэвізіі ўсе пытанні, што існуюць па Саюзе Беларусі і Расіі», — заявіў А.Лукашэнка ў аэрапорце "Унукава-2" перад адлётам у Мінск у сераду ўвечары. Ён таксама паабяцаў правесці выбары ў саюзны парламент у 2001 годзе – адначасова ў Беларусі і Расіі. А.Лукашэнка ўдакладніў: спачатку трэба вызначыць мэты і праблемы, дзеля якіх будуць абірацца дэпутаты і якія будзе вырашаць саюзны парламент.

На саміце былі зробленыя пэўныя высілкі па ажыўленні СНД. У прыватнасці, з'явілася рашэнне, што наступная сустрэча кіраўнікоў дзяржаваў СНД адбудзецца ў канцы лістапада-пачатку снежня ў Мінску. Канчатковыя тэрміны будуць вызначаныя асобна. І гэта яшчэ не ўсё. Як паведаміў намеснік кіраўніка адміністрацыі расійскага прэзідэнта Сяргей Прыходзька, 18-19 жніўня ў Крыме адбудзецца нефармальная сустрэча кіраўнікоў СНД. ■

АСПЕКТЫ

# Падманутыя спадзяванні «палітычных укладчыкаў»

Сымон ШПАКОЎСКІ

**Улада так і не адважылася на лібералізацыю выбарчага заканадаўства. Варыянт таго праекта закона, які днямі накіраваў у свой «парламент» Аляксандр Лукашэнка, расчараваў нават самых заўзятых і самых наіўных удзельнікаў так званага «дыялога грамадска-палітычных сілаў». Нягледзячы на ўсе абяцанні «ўлічыць меркаванні шырокага спектра сілаў», у выніку з 17 рэкамендацыяў па змене выбарчага заканадаўства, якія былі распрацаваныя экспертамі з кола ўдзельнікаў «дыялога», А.Лукашэнка адобрыў толькі 10 прапановаў.**

Такім чынам, ад законапраекта аб змяненні Выбарчага кодэкса пасля ягонага цэнзуравання адпаведнымі службамі прэзідэнцкай адміністрацыі засталіся фактычна «рожкі ды ножкі». Літаральна ўсе папраўкі ў ВК носяць тэхнічны або рэдакцыйны характар і не змяняюць ягонай сутнасці. Ніводная больш-менш прынцыповая заўвага так і не была ўлічаная ўладай. Не трапіла ў законапраект прапанова аб уключэнні ў склад выбарчых камісіяў прадстаўнікоў палітычных партыяў і грамадскіх арганізацыяў – на гэтым настойвалі ўсе ўдзельнікі «дыялога». Засталіся праігнараванымі рэкамендацыі аб адмене датэрміновага галасавання, аб выдачы назіральнікам заверанай копіі пратакола аб выніках галасавання і аб змяншэнні планкі ўдзелу выбаршчыкаў.

Гэта яшчэ раз пацвердзіла, што ўлада настолькі напалохаваная, што не здольная пайсці нават на мізэрныя крокі па стварэнні празрыстасці выбарчага працэсу. Яна баіцца змяніць сённяшні стан рэчаў, нават нягледзячы на магчымыя санкцыі з боку міжнародных арганізацыяў.

Прымаючы такі закон, А.Лукашэнка дае добры козыр у рукі апазіцыі. Бо прагнозы тых палітыкаў, якія з самага пачатку называлі «дыялог» не інакш як чарговай палітычнай афёрай, цяпер цалкам спраўдзіліся.

Учора «палатка» мусіла прыняць гэты закон – адразу ў двух чытаннях. І цяпер можна ставіць крыж і на «дыялогу». Прынамсі, яго канец ужо адчуваўся на апошнім паседжанні. «Наіўны» Аляксандр Фядута «кідаў бісер» перад абыякавымі ці марыянеткавымі ў сваёй большасці фігурамі «дыялога» і заклікаў іх падтрымаць змены ў заканадаўстве аб СМІ. Для «дыялагантаў» гэта было так далёка, што А.Фядуту з ягонымі прапановамі груба «зарэзалі». Прычым, не выключана, што назаўсёды.

Цяпер стала вядома, што дыялог па прапанове тых жа ўладаў адкладзены да верасня «ў сувязі з летнімі адпачынкамі». На самой справе, маўр сваю справу зрабіў, маўру дазволена сысці. Таму з вялікай доляй упэўненасці можна казаць, што ніводная рэанімацыя не здолее яго ажывіць з надыходам восені. Зразумела, фантом можа ўзнікнуць толькі тады, калі Лукашэнку зноў захочацца пагуляць у кошкі-мышкі з Еўропай. Але ці спатрэбіцца гэта яму восенню?

Тым часам еўрапейскія эксперты з АБСЕ, Савета Еўропы ды Еўрасаюза ўжо прызвычаіліся да песняў «ката-баюна» і ніяк не жадаюць трапляць пад уздзеянне ягоных медытацыйных спеваў. Напэўна ў еўрапейцаў усё ж пачынае выпрацоўвацца супрацьяддзе. І гэтая акалічнасць не тое, што крыўдзіць, але нават раздражняе беларускія ўлады.

Рэжысёры з прэзідэнцкай адміністрацыі ўжо нават сцэнар распрацавалі і ролі для гасцей падрыхтавалі. Ужо і дата прэм'еры была абвешчана: «19 чэрвеня – грамадска-палітычны дыялог з удзелам замежных гасцей Х.-Г. Віка, А.Севярына і іншых». А тыя не прыйшлі на прадстаўленне, сарваўшы спектакль. Вядома, абурэнню прэзідэнцкіх рэжысёраў не было мяжы. Памочнік Лукашэнкі С.Посахаў амаль не пасварыўся на гэтай глебе з паслом Х.-Г.Вікам. Яно і зразумела, заданне гаспадара аказалася невыканаоным, а ў такіх умовах і месцам паплаціцца нядоўга.

Так чынам, А.Лукашэнка даў урок тым, хто паспрабаваў пасябраваць з уладай. Да таго ж яшчэ невядома, як еўрапейскія эксперты ацэняць той закон, які ствараўся менавіта дзеля зніжэння іх пільнасці. ■

ЭНЕРГЕТЫКА



# Немцы зачыняць атамныя станцыі

Кірэй МАНУЙЛАЎ

**Урад Нямеччыны дамовіўся з буйнейшымі энергетычнымі кампаніямі краіны аб паступовым вывадзе з эксплуатацыі ўсіх 19 тамтэйшых АЭС. Па словах канцлера Герхарда Шродара, яны будуць зачыненыя пасля таго, як кожная адпрацуе 32 гады. Гэта значыць, што першую АЭС зліквідуюць у 2002 годзе, а апошнюю – у 2021-ым.**

Такое рашэнне – вынік палітыкі правячай кааліцыі сацыял-дэмакратаў і «зялёных». Антыядзерны пункт быў адным з найгалоўнейшых у перадвыбарчых праграмах гэтых партыяў на пераможных для іх парламенцкіх выбарах два гады таму. Нямецкія «зялёныя» вось ужо 30 гадоў змагаюцца за закрыццё атамных электрастанцыяў. Прычым не толькі на радзіме. Напрыклад, міністр замежных справаў Нямеччыны, «зялёны» Ёшка Фішар настойліва выступае супраць дапамогі з боку Еўрапейскай Супольнасці ў будаўніцтве атамных рэактараў у якасці замены Чарнобыльскай АЭС на Украіне.

Аднак у самой Нямеччыне не ўсе падтрымліваюць адмову ад атамнай энергетыкі. У прыватнасці, партыя ХДС збіраецца заблакіраваць адмысловы ўрадавы законапраект у Бундэсрацe, верхнім палаце нямецкага парламента. Хрысціянскія дэмакраты лічаць, што, паколькі атамныя электрастанцыі даюць каля 30% ад усёй энергіі, што спажывае краіна, узнікне складаная праблема нейкім чынам кампенсаваць страту гэтай энергакрыніцы. Маўляў, у гэтым выпадку давядзецца альбо імпартаваць электраэнергію, прычым з тых жа небяспечных атамных блокаў за мяжой, альбо павялічваць аб'ёмы энергавытворчасці на цеплавых электрастанцыях, ад чаго паболее пагрозы забруджвання навакольнага асяроддзя. Шродар у сваю чаргу мае намеры зрабіць так, каб законапраекту была непатрэбная абавязковая ўхвала верхняй палаты. ■

ФЕСТЫВАЛІ

## Адбор на «Басовішча'2000»

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

У мінскім клубе «Альтэрната́ыва» ў мінулыя выхадныя прайшоў адборачны тур фестывалю беларускай маладзёжнай музыкі «Басовішча», што традыцыйна штогод праводзіцца каля мястэчка Гарадок, што непадалёк ад Беластока (Польшча). У гэтым годзе фестываль будзе праводзіцца 14-15 ліпеня. У першы дзень выступяць маладыя гурты, а ў другі сваё майстэрства прадэманструюць спецыяльна запрошаныя госці, сярод якіх: «Крама», «Уліс», *NRM* ды іншыя. Выступленні будуць праходзіць пад адкрытым небам, а таму, каб патрапіць на фестываль, трэба заплаціць толькі за дарогу ды за ваўчар у Польшчу.

У Мінск за правa трапіць у лік 11 маладых гуртоў-удзельнікаў фестывалю з'ехаліся змагацца 24 гурты з розных рэгіёнаў краіны. Гэта і не дзіўна, бо «Басовішча» лічыцца вельмі прэстыжнай прыступкай да кар'ернага ўзлёту любой беларускай музычнай суполкі. Адбор праводзілі слухачы, якія прыйшлі на канцэрт, пры дапамозе раздадзеных ім анкетаў. У выніку найбольшую колькасць балаў і запрашэнне на фестываль атрымалі гурты «Сонца Мао», «Бан Жвірба», «Голая манашка», «Твар», «Без білета», «Млын», «Цмокі», «Склеп», *«Postscriptum»*, *«Happy face»*. ■

## «Палац» не паедзе ў Чэхію




Фота Ул. ШЛАПАКА

**Аляксей ШМЯЛЁЎ**

**Беларускі фольк-гурт «Палац» хутчэй за ўсё не здолее прыняць удзел у Фестывалі Еўрапейскага вяшчальнага саюза, што пройдзе з 30 чэрвеня па 2 ліпеня ў чэшскім горадзе Ражноў-пад-Рагоштам. Прычынай стала адмова Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Беларусі ў фінансаванні паездкі.**

Гурт «Палац» быў створаны ў 1992 годзе і ўсю сваю творчасць пабудаваў на арыгінальнай апрацоўцы аўтэнтычнага беларускага фальклору, дзякуючы чаму дабіўся вялікага поспеху. Але па-сапраўднаму гурт быў ацэнены толькі за межамі Беларусі. «Палац» набыў шырокую папулярнасць у заходнееўрапейскіх краінах. Да таго ж паспяховыя канцэрты за мяжою дапамагалі гурту выжываць. Музыканты, праводзячы выступленні за мяжой, прэзентуюць у самым лепшым свеце Беларусь.

У 1994 годзе «Палац» ужо ўдзельнічаў у аналагічным фестывалі і займеў вялікі поспех. Тады паездку фінансавала маладзёжная рэдакцыя Дзяржтэлерадыё (былая «Беларуская Маладзёжная»). Але ў гэты раз Нацыянальная тэлерадыёкампанія адмовіла ў фінансаванні – бракуе сродкаў. Між тым самі музыканты запрасілі за сваё выступленне на фестывалі ў якасці ганарару толькі 210 долараў ЗША на сем(!) чалавек. Усё астатняе павінны былі скласці расходы на пражыванне ў гатэлі, праезд і візы: разам 2.230 у.а. Тым не менш гэтыя, даволі малыя для дзяржаўнага тэлебачання грошы не здолелі знайсці. У Чэхіі «Палацу» было абяцана гадзіннае (!) выступленне, што ў рамках такога мерапрыемства, як фестываль, адлюстроўвае ступень вялікай павагі да гурта.

Кіраўнік і саліст гурта «Палац» Алег Хаменка назваў такое рашэнне Белдзяржтэлерадые памылкай і ўдарам па прэстыжы краіны, па айчыннай музычнай культуры. ■

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

## Літве – ад Смаргоні

Кантрабанду, якая нячаста сустракаецца, выявілі на днях на беларуска-літоўскай мяжы пагранічнікі Смаргонскага атрада (Гродзенская вобласць).

Прэс-службе Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў рэспублікі паведаміла, што трывожная група затрымала мясцовага жыхара, які на сваёй фурманцы спрабаваў вывезці ў Літву 58 літраў самагону. Кантрабандыст змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання



Смаргонскага атрада. Што сталася з яго таварам, пакуль невядома. ■

# «Зоркавыя гадзіны» Лукашэнкі

**Ігар КАРНЕЙ**

**Кожны панядзелак, чацвер і суботу Аляксандр Лукашэнка ўвечары гуляе ў хакей. Паводле словаў дырэктара мінскага Палаца спорту Мікалая Фралова, гэта самыя клопатныя гадзіны для супрацоўнікаў галоўнай спартовай арэны Беларусі.**




Фота IREX/ProMedia

● «Зоркі» хакея — зайздросны прыклад для ўзадарных аматараў

Тры разы на тыдзень, пачынаючы з 5-й гадзіны ўвечары, у мінскім Палацы спорту гаспадарыць служба аховы Лукашэнкі. Хлопцы ў чорным ходзяць па кабінетах, не зважаючы на тое, што гэтым замінаюць працаваць. Кожны метр тэрыторыі правяраецца на прадмет чысціні ад выбуховых прыстасаванняў ды ўласна зламысьнікаў. Бліжэй да 18:30 усе пад'езды да лядовай пляцоўкі блакуюцца, бо прыблізна праз паўгадзіны на праспекце Машэрава мусіць з'явіцца браняваны «Мерседэс» Лукашэнкі. Тым часам ахоўнікі займаюць стратэгічныя пазіцыі, і амаль да 10-й вечара Палац спорту застаецца зачыненай зонаю.

А яшчэ за гадзіну да з'яўлення галоўнага хакеіста краіны збіраюцца ягоныя партнёры па гульні. Гэта памочнік Лукашэнкі ў справах спорту і капітан хакейнай каманды чыноўнікаў Цацэрын, міністр спорту Варсін, адзін з трэнераў нацыянальнай хакейнай зборнай Захараў, віцэ-прэзідэнт Федэрацыі футболу Курбыка, прэзідэнт фірмы «Трайпл» Чыж ды іншыя. Сёння яны выглядаюць вельмі напружанымі, бо ў папярэднім матчы неяк неабачліва абгулялі самога Лукашэнку. Дакладна вядома, што паразу на пляцоўцы ён успрымае гэтак жа балюча, як і марцы апазіцыі. Яшчэ кажуць, што свае самыя неверагодныя дэкрэты Лукашэнка выдаваў якраз пасля няўдалых гульняў.

Нешта дакладна сцвярджаць у гэтай справе цяжка, бо трапіць на матчы ў якасці заўзятара немагчыма. Лукашэнка асабіста распарадзіўся, каб нікога «лішняга» на трыбунах не было. Ды і наўрад ці ён пацярпеў бы, каб яго нехта абсвістаў. Пад час гульні да лініі аховы дапускаюць толькі дырэктара Палаца спорту. Не ў якасці гледача, а каб аддаць яму загады ў адпаведнасці з сітуацыяй.

Дырэктар Палаца спорту Мікалай Фралоў скардзіцца, што горш за ўсё, калі даводзіцца кідаць усе справы і нешта спешна рабіць да прыезду высокіх гульцоў. Напрыклад, сёння патэлефанавалі са службы аховы Лукашэнкі і загадалі нанава заасфальтаваць дарогу да лядовае пляцоўкі. Напярэдадні прыйшоў загад усталяваць дадатковую сістэму кандыцыявання, бо Лукашэнка ў запале гульні моцна пацее. Кожны дзень адмысловая каманда шліфуе лядовае пакрыццё для галоўнага хакеіста краіны...

Але паколькі Палац спорту з'яўляецца арганізацыяй «на гаспадарчым разліку», сродкі на такія прыхамаці даводзіцца выдаткоўваць з уласнага бюджэту. А гэта адчувальна, бо грошай не хапае нават на просты рамонт. Пасля 35 гадоў эксплуатацыі абсталяванне патрабуе сур'ёзнай абновы.

Я паспачуваў дырэктару, узгадаўшы час, калі Лукашэнка захапляўся вялікім тэнісам, а Палац спорту, на шчасце адміністрацыі, корты так і не займеў. На што дырэктар адказаў: "Мы былі шчаслівыя, калі прэзідэнт займаўся тэнісам. Але тэніс – гульня індывідуальная. А наш прэзідэнт любіць быць у цэнтры *калектыўнае* ўвагі». ■

**Мінск, Радыё Свабода**

ГЕАПАЛІТЫКА

# Новый ядерный этап

**Ричард Н.ХААСС,**

**президент и директор факультета международных отношений Института Брукинса, автор книги «Сопротивляющийся шериф: Соединенные Штаты после холодной войны»**

В течение полувека ядерную войну удавалось избежать благодаря ее устрашающему действию и пониманию того, что другая сторона ответила бы с разрушительными последствиями. Эта концепция была кодифицирована в Соглашении 1972 года об Антибаллистических ракетах (АБР), в котором Соединенные Штаты и Советский Союз договорились снизить свой арсенал до минимума. Последующие соглашения о контроле за вооружением – *SALT* и *START* – были обговорены и приняты в этом же контексте.

Ядерные предложения и контрпредложения, прозвучавшие на недавнем саммите между президентом Клинтоном и президентом Путиным, возможно станут последними пережитками этой концепции холодной войны. Поскольку сейчас вопрос состоит в том, не пришло ли время сделать скачок в другую стратегическую реальность, в которой уровни систем защиты и нападения изменятся как абсолютно, так и относительно. Говоря точнее, вопрос состоит в том, есть ли смысл перейти в мир с меньшим арсеналом ядерного нападения и большим арсеналом ракетной защиты.

Этот вопрос созрел на основе нескольких произошедших в мире перемен. Первая из них – завершение «холодной войны». Теперь уже нет никакого смысла (если он конечно когда-то существовал) для США или России содержать массивный ядерный арсенал, достаточный, чтобы уничтожить друг друга несколько раз.

Во-вторых, возникает угроза от других стран, и ситуация может ухудшиться еще больше. Некоторые страны, включая Северную Корею, Ирак и Иран, разрабатывают баллистические ракеты и возможно ядерное оружие тоже. В зависимости от их типа, эти ракеты могут представлять угрозу для США в критических регионах.

Третья перемена состоит в разработке (и потенциале) новых технологий, которые могут сделать появление перехватывающих баллистических ракет, способных ударить по атакующей ракете – точка в точку – в той или иной стадии полета, возможным как никогда.

Похоже, что эта логика заставила кандидата в президенты от Республиканской партии Джорджа В.Буша поддержать переход к новой стратегической парадигме. В своей речи 23 мая в Вашингтоне Буш высказал приверженность тому, что арсенал ядерного оружия должен быть снижен «до минимально возможного количества, отвечающего задачам нашей национальной безопасности». Он выступает за такое построение защитной системы, при котором она могла бы «защитить все 50 штатов и наших друзей, и союзников и обезоружить возможные атаки из-за рубежа – из представляющих опасность стран».

Не все разделяют эту позицию. Критики возражают, что защитная ракетная система приведет к тому, что Россия откажется снижать свой арсенал, а Китай его увеличит.




● Никто не хотел разоружаться

Критики также заявляют, что ядерная защитная система не сработает против нападающих боеголовок, окруженных маскировкой.

Попытка ввести скромные изменения в существующую стратегическую парадигму не нашли большой поддержки. Предложение Клинтона об ограниченном ядерном защитном арсенале звучит слишком радикально для России, которая опасается, что это – начало чего-то большего и что это подрывает ее стратегические позиции.

Учитывая эту ситуацию, президент Клинтон должен отказаться от принятия любых решений по поводу ядерной защитной стратегии в последние месяцы своего президентства. Вместо этого США должны предпринять следующее: интенсивное тестирование различных вариантов ядерной защитной системы, включая морские, позволяющие перехватить ракеты уже сразу после запуска, еще до того как активированы боеголовки и маскировка; интенсивные переговоры с Россией, Китаем и американскими союзниками в Европе и Азии о том, как сохранить стратегическую стабильность в эру после «холодной войны».

Американцы никогда бы не предприняли никаких перемен в системе субсидирования государственных программ или системе образования без серьезного исследования и широкомасштабных дебатов. Поддержание стабильности в мире, который все еще живет в ядерной эре, требует не меньшей ответственности в подходе. ■

**P. S.**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1784 Нумар падпісаны ў друк 22/06/2000 (15:00) Наклад – 9.700